*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 2 (24)
Студзень
2013 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

## Вялікія прагматыкі

**150 гадоў назад, у ноч на 23 студзеня 1863 г., успыхнула паўстанне супраць Расіі.**



У паўстанцаў 1863-64 гадоў былі мізэрныя шанцы на перамогу.

Іх сілы двойчы ўступалі расейскім, на зброю маглі разьлічваць толькі некалькі тысяч, а заходнія сталіцы не асабліва перaймаліся чужымі праблемамі. У палітычным і вайсковым сэнсе паўстанне было не проста паразай, а катастрофай. Тысячы патрыётаў заплацілі за яго жыццём, тысячы былі сасланыя ў Сібір, тысячы страцілі маёмасьць. Пасля паўстання на землях былога Вялікага княства й Польшчы было ўведзенае фактычна ваеннае становішча. Здавалася б, ніякіх перамог, адныя страты.

З сённяшняй пэрспэктывы можа здавацца, што рашэнне пра пачатак паўстаньня было памылкай за якую давялося заплаціць вельмі высокую цану. Хапае разумных, якія сьпяшаюцца вучыць, што трагедыя 1863-64 г.г. павінна паслужыць сучаснікам урокам, бо, маўляў, нельга высоўвацца супраць мацнейшых, калі няма шанцаў перамагчы.

Паўстанне 1863-64 г.г., насуперак досыць пашыранаму ўяўленню , не было проста рамантычнай ідэяй маладзёнаў, якіх распірала энэргія і ўзбуджалі патрыятычныя лозунгі. Гэта быў адказ на гады прыгнёту, немагчымасьць рэалізаваць сябе. Гэта была нянавісць за гады крыўды. Што павінен быў рабіць народ пад акупацыяй, бачачы сваю бызвыходнасьць?

Гэта адвечная спрэчка, ці варта, калі хтосьці дае нам у морду, адказаць, ці пабачыўшы, што ён мацнейшы, папрасіць прабачэння? Тады можна спытаць, а які сэнс увогуле бараніцца ад ворага, можа тады здавацца на пачатку, калі яго армія мацнейшая?

Калі б паўстання не было, а з ім не было і прагі да жыцця ў свабоднай і незалежнай Айчыне, то гэта нічога не зьмяніла б у лепшы бок. Ніхто не збіраўся ператвараць Паўночна-Заходні край у Беларусь. Паўстанне ж стала яшчэ адным крокам да вызвалення.

У гэтым канфлікце былі два бакі: адныя хацелі быць свабоднымі, а іншыя хацелі гэтую прагу да свабоды задушыць. Мы былі на слушным баку. Варта памятаць пра гэта і ўшанаваць паўстанцаў. За іх адвагу і мужнасць, за супраціў гвалту, за бескампраміснасьць.

Калі пачалося паўстаньне, то жонка правадыра паўстанцаў Рамуальда Траўгута спытала ў мужа: “Ці ёсць сэнс у гэтым паўстанні?”. Траўгут адказаў: “Не ведаю, ці ёсць сэнс, але ёсць неабходнасць”.

Учынак паўстанцаў – гэта урок вялікай годнасці. Сёння шмат хто называе іх рамантыкамі і ідэалістамі. Але гэта былі ці не самыя прагматычныя героі нашай гісторыі. Тое, за што яны змагаліся, ёсць.

*Дзмітрый ГУРНЕВІЧ.*
Паводле Polskie Radio.

---

Паўстанне ў Беларусі ўжо задыхалася. Адзін з інсургентаў - паўстанцкі камісар Магілёўскай губерні Вітаўт Парфіяновіч - на допыце выдаў Каліноўскага. У лютым 1864 «дыктатар паўстання» трапіў у рукі царскіх жандараў.

Падчас следства і суда Кастусь трымаўся з незвычайным мужнасцю. Царскі ваенна-палявы суд вынес пастанову: пакараць смерцю правадыра інсургентаў праз павешанне. Прысуд быў выкананы 10 (22) сакавіка 1864 года на віленскай гандлёвай плошчы Лукішкі...

З царскай турмы Кастусь перадаў на волю свой напісаны па-беларуску і звернуты да народа запавет - «Лісты з-пад шыбеніцы» :

*“Браты мае, мужыкі родныя. З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца,- но не жаль згінуць за тваю праўду.*

*Прыймі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як з таго света толькі для дабра твайго напісана.*

*Няма ш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве, папраўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць. Но як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам наука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай наукі, – адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу.*



*Для таго, Народзе, як толька калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б’юцца за праўду й свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но, ухапіўшы за што зможаш, за касу, сякеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную.*

*Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе. Твой слуга Яська гаспадар з-пад Вільні».*

*Падрыхтавала*
*Юлія БРУК.*

---



## Дзеля якога сцяга варта рызыкаваць?

У нядзелю, 20 студзеня, ўвечары ў самым шматлюдным месцы Віцебску на вачах у мінакоў невядомы хлопец забраўся на слуп і прымацаваў бел-чырвона-белы сцяг у «гняздо», якое ў дні святаў прызначана для цяперашняга дзяржаўнага сцяга. Гэта заняло 45 секунд. Хлапец, бясспрэч-на, рызыкаваў: мы памятаем, чым скончылася для Сяргея Каваленкі вывешванне нацыянальнага сцяга на навагодняй ялінцы.

Сцяг быў вывешаны ў гонар 150-годдзя паўстання Кастуся Каліноўскага.

А вось падумалася: пасля таго, як бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» зноў будуць дзяржаўнымі — ці знойдуцца ахвотныя вось гэтак рызыкаваць (нават не свабодай — здароўем, бо небяспечна ўпасці з трохметровай вышыні) — каб вывесіць чырвона-зялёны сцяг — ну, напрыклад, у гонар нейкай гадавіны якой-небудзь шматлікай «изящной» перамогі колішняга (на той момант) кіраўніка дзяржавы?

Ня памятаю, каб у 1991-1994 гадах нехта рызыкаваў лезці на высакавольтную вежу са сцягамі СССР і БССР — ахвотных звярнуць сабе шыю дзеля сцвярджэння ідэалаў *«непарушнага саюзу братніх народаў»* не было. Пра міліцэйскі пастарунак гаворка не ішла — хто хацеў, той выходзіў на нешматлікія мітынгі з чырвонымі сцягамі ды партрэтамі Сталіна. У Беларусі, як вядома, не быў асуджаны камуністычны рэжым, не адбылася люстрацыя — і чырвоныя сцягі з нямоглых рук пенсіянэраў-сталіністаў перахапілі былыя камсамольцы, і, прыйшоўшы да ўлады, перафарбавалі краіну ў чырвона-зялёны колер.

Увогуле, дзеля Сцяга рызыкаваць варта — бо, канешне, усё пачынаецца са Слова (з мовы), але замацоўваецца — Сцягам.

*Сяргей НАВУМЧЫК.*
svaboda.org

---

## Беларусь губляе рабочую эліту

ІНФАРМАЦЫЯ І КАМЕНТАРЫІ

Пра тое, што Беларусь губляе рабочую эліту заявіў старшыня Магілёўскай асацыяцыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў Валерый Чарткоў.

*"З укараненнем станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем у краіне спынілася падрыхтоўка спецыялістаў базавых для машынабудавання прафесій: фрэзероўшчыкаў-універсалаў, токараў. На змену ім прыйшлі так званыя станочнікі шырокага профілю. Але добры токар, фрэзероўшчык -універсал – гэта, па сутнасці, інжынер, чыё працоўнае месца – станок. Гадаваць такіх спецыялістаў пасля сістэмы прафтэхадукацыі прыпадае на працоўным месцы ад пяці да дзесяці гадоў ",* – адзначыў В.Чарткоў.

Акрамя таго, лічыць ён, прадпрыемствы надаюць мала ўвагі падрыхтоўцы маладых кіраўнікоў. *"Быццам, ёсць цэнтры падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кіраўнікоў, але няма далейшага прафесійнага росту, стажыровак, стымулявання працы, і да 40-45 года яны губляюць «бляск у вачах», а стаўку сёння трэба рабіць на маладых кіраўнікоў",* – перакананы старшыня асацыяцыі.

► *Уже сейчас невозможно найти квалифицированного специалиста ни в одной сфере! Знаю это как по своему опыту, так и опыту бизнеса многочисленных друзей. Только криворукая алкашня, которую держать - себе дороже выйдет. Все нормально умеющие что-то делать - немедленно сваливают в Россию или еще куда нибудь. А алкашня и прочие - меньше чем папиццот (как им обещали) делать ничего не хотят, а если и делают - то криво.*

► *Люди, а вы были в наших деревнях? Видели что там творится ??? Страх господний! ТАКУЮ пьянь вы никогда в городе не увидите! Увидишь около магазина или автолавки - так думаешь: а это создание еще живо или нет, и как оно вообще передвигается? Молодежь бежит, старики вымирают, остальные пьют. Капут сельскому хозяйству, когда рабсила там закончится. А это будет непременно и скоро.*

► *Отсюда скоро сбегут все. Построили смесь рабовладения с феодализмом. Чтобы не помереть голодной смертью и не красть, умные люди должны всё сделанное, придуманное, выстраданное отдать дуракам-начальникам и их лизоблюдам. Те ставят подписи под готовыми работами и выписывают себе деньжищи. Не хочет раб работать на них добровольно - пригрозят увольнением. Как начинать жизнь сначала в 40-50 лет? Этим и пользуются. Я прошла все круги ада, пока доработала до пенсии. Сейчас свободный художник, как говорят коллеги. Работаю только на себя. Начальство боится косо на меня посмотреть - в любую минуту далеко пошлю. Но как жила впроголодь с двумя сыновьями-подростками, работая на феодалов, никогда не забуду и не прощу. И КГК мне тогда не помог.*

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*

## Уладзімір АРЛОЎ: *“Лісты з-пад шыбеніцы” не страцілі актуальнасці”*



Пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў упэўнены, што ў працэсе дэнацыяналізацыі Беларусі пакуль не пройдзена"кропка незвароту".

Пра гэта ён заявіў 23 студзеня ў Магілёве на сустрэчы з грамадскасцю, прысвечанай 150 -годдзю паўстання 1863-1864 гадоў.

*"Я лічу, што параўнанні Беларусі з Ірландыяй, якія часта робяцца, калі датычацца моўнай сферы, некарэктныя. Большасць ірландцаў не валодаюць ірландскай моваю, а большасць беларусаў валодаюць беларускай моваю, хай нават пасіўна. Думаю, усе беларусы беларускую мову разумеюць, могуць не разумець некаторых нюансаў, але гэта не значыць, што яны гэтай мовы не ведаюць ",* – адзначыў літаратар.

Уладзімір Арлоў заявіў, што сённяшняе стаўленне ўладаў да постаці Кастуся Каліноўскага і паўстання 1863 года выклікае "бясконцае шкадаванне", паколькі менавіта падчас гэтага паўстання пачала зараджацца сучасная беларуская нацыя. *"Мне падаецца, што наша нацыянальнае адраджэнне, у выніку прывяло да стварэння беларускай дзяржавы з яго сучасным назвай, было б немагчыма без паўстання, якое стала яго каталізатарам. Паўстанцы мелі газету на беларускай мове. «Лісты з-пад шыбеніцы» Каліноўскага, напісаныя на беларускай мове, не страцілі сваёй актуальнасці і цяпер ",* – сказаў Арлоў.

Пісьменнік шкадуе, што цяперашняя палітыка дзяржавы ў сферы гісторыі, культуры, адукацыі вядзе не да вяртання гістарычнай памяці, а да вяртання міфаў, створаных савецкай і расійскай дваранскай гісторыяграфіяй. *"Міфаў пра гэтую адзіную народнасць, з якой быццам бы выйшлі тры народа, пра адзіную Кіеўскую Русь, пра ўз'яднанне Беларусі з Расеяй у канцы XVIII стагоддзя. У гэтым шэрагу я бачу і стаўленне да паўстання 1863 года",* – падкрэсліў Арлоў.

## У Буйнічах згарэла жанчына



21 студзеня, каля трох гадзін дня адзін з жыхароў пасёлка Буйнічы заўважыў, што з хаты, дзе жывуць яго суседзі, валіць дым. Мужчына неадкладна выклікаў пажарных, аднак задымленне было настолькі шчыльным, што выратавальнікі яшчэ нейкі час не маглі патрапіць у дом. Па словах суседзяў, у будынку пражывала 74-гадовая жанчына з сынам, яе цела пажарныя знайшлі на пад-лозе ў адной з пакояў. 52-гадоваму сыну ўдалося выратавацца: мужчына выбраўся з палаючага дома, нягледзячы на тое, што знаходзіўся ў стане моцнага алкагольнага ап'янення. У выніку пажару агнём былі знішчаныя перакрыцці і маёмасць у доме.

## Думкі з Інтэрнэта

Ни один чиновник, ни один бюджетник, не создает в государстве ничего. Ноль добавленой стоимости. Это нули полные, балласт, только потребляющий. Пирамида власти, кормится за счет тех, кто эту самую добавленную стоимость создаёт, кто производит все материальные блага. Все держится на инженерах, предпринимателях, производственниках, рабочих, строителях, доярках-свинарках, скотниках и пастухах. С годами стабильности штаны у бездельников раздуваются. Раздуваются штаты всевозможных инспекций, веселятся контроль и налоги, растут штрафы. Шестерятся БРСМ-вские вожаки, упитанная молодежь с лысинкой. Хорошо вот так, жить не работая, выходить по утрам, оглаживая сытое брюшко... Но в какой-то момент наступает предел. Мужик может прокормить двух генералов, но не двести, с их челядью, обслугой и шоферями. Рабочие рабы из подножия пирамиды государства, разбегаются кто куда, и она обращается в колосса на глиняных ногах. Еще всё работает кое-как, последние пьяные работяги замолачивают болты, в мосты МАЗа, последние швеи, замерзшими пальцами, все ещё сшивают модные штанцы, по утыренным с Запада лекалам, но без внешней подпитки процветающей стабильности ханец. *RESISTANCE.*

Процесс трудовой миграции нарастает как снежный ком. Это раньше люди ехали в никуда на свой страх и риск. Следующей волне уже было и есть куда ехать. Ставшие там большими начальниками белорусы перетягивают своих спецов–знакомых. В РБ остаются одни криворукие... Белорусы - народ осторожный (тем более в белорусских СМИ постоянно мусируются, насаждаются страхи – там вас ограбят, оставят без денег, убьют). И после того как кто-то из знакомых приезжает домой уже с деньгами, едут с этим "разведчиком" в эту "страшную" Россию. Процесс становится лавинообразным. И если учесть, что уезжают не самые худшие, то перспективы Беларуси видятся совсем не радужными. *222.*

## Дзяржаўны розум

*Вы кажаце, што трэба нешта рабіць з чэргамі ў паліклініках... Давайце ўвядзем плату ў памеры 5 тысяч рублёў за наведванне паліклінікі".*

Трэба знайсці грошы на фінансаванне вышэйшай адукацыі? Ён, гэты дзяржаўны стратэг, таксама ведае, як вырашыць складанае пытанне.

*"Давайце з вамі дамовімся на наступны навучальны год: па тых спецыяльнасцях, дзеназіраецца перавытворчасць кадраў, але моладзь гэтая акалічнасць мала турбуе, пралічвалі сабекошт падрыхтоўкі, дадавайце працэнты прыбытку, якія самі палічыце вернымі, і называйце суму. Мы ўсе жывем ва ўмовах рынку. І калі малады чалавек, нягледзячы ні на што, хоча вучыцца менавіта на гэтай спецыяльнасці, то няхай будзе гатовы выкласці названую суму ".*

Не хапае грошай на развіццё пазашкольнай адукацыі? У яго, стратэга, гатова "выдатнае" рашэнне.

*"Калі ёсць добры праект у цэнтра пазашкольнай работы, напрыклад, дзіцячы ансамбль, то для яго заўсёды знойдзецца бюджэтнае фінансаванне. А жаданне займацца бодзі-артам, чэрлідынгу, пляценнем кос, прыдумваннем казак і кулінарыяй павінна задавальняцца за кошт сродкаў бацькоў, а не за кошт бюджэту ".*

Толькі Аляксандр Лукашэнка заікнуўся – стратэг адразу даў адказ, як вырашыць даўнюю і хваравітую праблему павышэння заробкаў выхавальнікам дзіцячых садкоў.

*"Я прапаную разгледзець пытанне аб тым, каб бацькі плацілі нейкі адсотак ад кошту ўтрымання іх дзяцей у пэўным садзе... Вядома, мы б хацелі, каб бацькі аплачвалі хоць бы поўны кошт харчавання сваіх дзяцей. Гэта будзе вырашацца паэтапна, але ў бліжэйшы час трэба выходзіць хаця б на 60-70 працэнтаў аплаты харчавання. Гэтыя грошы мы накіруем на павышэнне зарплаты людзей, якія займаюцца дзецьмі. У выніку гэта будзе садзейнічаць павышэнню якасці адукацыйнага працэсу ".*

Усе вышэй пералічаныя цытаты належаць аднаму чалавеку. І гэты чалавек – намеснік старшыні ўрада, які адказвае за сацыяльны блок, Анатоль Афанасьевіч Тозік. Гісторык па адукацыі, які ўдасканальваў свае веды на вышэйшых курсах КДБ, проста фантануе рэцэптамі *"выпраўлення сітуацыі"* і *"паляпшэння жыцця людзей"*. Але ад усіх хвароб ў яго рэцэпт адзін: як мага больш садраць з простага чалавека.

Напэўна, з гісторыі спадар Тозік засвоіў толькі савецкі перыяд, калі ў грамадстве панаваў прынцып: *"Калі ты нешта павінен дзяржаве, то хоць памры, але заплаці, а калі дзяржава нешта абяцала табе, то хоць памры, але забудзься пра гэтыя абяцанні ".* Ды і то засвоіў часткова. Таму што ўсё ж такі ў лепшыя савецкія часы перш, чым нешта забраць у людзей, ім часта нешта і давалі.

Ці хоць раз спадар Тозік выступіў з абурэннем тымі мізэрнымі заробкамі, з якіх многія людзі не тое што занятkі дзіцяці ў нейкім гуртку не могуць аплаціць – жыць не маюць за што? Лайдакі, якія не хочуць працаваць, – гэта адна праблема. Але галоўная бяда нашай краіны, што нават многія з тых людзей, якія працуюць ніздрэнна, не могуць выбіцца на лепшае жыццё. Каб не сказалі, што я ачарняць рэчаіснасць, спашлюся на ніздаўні матэрыял «Гомельскай праўды" (афіцыйнай газеты Гомельскага аблвыканкама), дзе апісваўся рэйд мабільнай групы па прадпрыемствах Добрушскага раёна. *"Колькі зарабляеце ў месяц?"* – спыталі начальнікі на адным з аб'ектаў. І пачулі ў адказ: *"За 320 працоўных гадзін – 1 мільён 300 тысяч рублёў".*

Вы ўяўляеце, што такое 320 працоўных гадзін? Гэта больш чым па 10 гадзін штодня, без выходных. І што чалавек мае?.. Пры такіх заробках бацькоў і дзіцячыя сады, і гурткі, і спартыўныя секцыі, і экскурсіі для дзяцей наогул павінны быць БЯСПЛАТНЫМІ, каб не выраслі дзеткі маральнымі і культурнымі калекамі. Бо з такіх грошай добрую кніжку не купіш, не тое што не заплаціш за нейкія дадатковыя занятkі.

Але спадар Тозік робіць выгляд, што няма ў краіне праблемы жабрацкіх заробкаў. Ну проста лопаюцца ў людзей ад грошай кішэні і кашалькі, таму Анатоль Афанасьевіч заладзіў адну песню: *"Плаціце, плаціце, плаціце ..."*

А калі няма чым плаціць? У каго ёсць грошы, у тых дзеці даўно ходзяць у камерцыйныя сады, спецыяльныя школы і медыцынскімі цэнтрамі. Але наўрад задумаўся віцэ-прэм'ер, што ў нашай краіне трэба неяк выжываць і тым, у каго, як ні стараюцца, такіх даходаў не?

Тым больш што людзі ўжо заплацілі! І за бясплатную медыцыну, і за бясплатную адукацыю. Заплацілі сваімі падаткамі. Вось толькі не туды пайшлі іх грошы. Так, агульнадзяржаўныя выдаткі (гэта ўтрыманне прэзідэнта, урада, судоў, пракуратуры, міліцыі, КДБ і г.д.) у 2006 годзе склалі 32,84% дзяржаўнага бюджэту, а ў мінулым годзе – ужо 52,65%. Затое выдаткі на сацыяльную палітыку ў тым жа 2006 годзе былі ў межах 9,33% дзяржбюджэту, а ў 2012-м – толькі 6,83%. Але не абураецца гэтым віцэ-прэм'ер Тозік, не бачыць недахопаў у тым, што чынавенства і сілавікі дзеляць агульныя народныя грошы ў сваю карысць. Наадварот, ён настойліва стаіць на тым, што для вырашэння большасці праблем трэба садраць грошы з бедных. Разлік тут ёсць, і ён просты: грошай у небарак зусім не шмат, затое бедных – процьма.

Але самае дзіўнае, што за такі "дзяржаўны розум" спадара Тозіка пасады не пазбавяць, хоць у любой іншай краіне так бы і было. А ў нас наадварот. Можа, яшчэ Героя Беларусі дадуць ...

*Святлана КАЛІНКІНА.*

"Народная воля".

"СПРАВА"
Інфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна
Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці
з Законам Рэспублікі Беларусь
"Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск -
Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі,
вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць
за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падпыхтавана да друку 31.01.2013 г. 21.00.
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www. kamunikat. org/